*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

**№ 99 (1164)**
Субота, 2 чэрвеня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца пераменная воблачнасць, у асобных раёнах кароткачасовыя дажджы. Вецер няўстойлівы, 4—9 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску — +13...+15, Гродне, Магілёве — +14...+16, Мінску — +15...+17, Гомелі — +16...+18, Брэсце — +17...+19.

У наступныя двое сутак: 3-га — па захадзе, а 4-га і ў цэнтральных раёнах месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер паўднёвы і паўднёва-заходні, 4—9 м/с, пры навальніцах парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра 3-га ўначы — +3...+8; удзень — +18...+23; 4-га ўначы — +6...+11, удзень +13...+18, па ўсходзе да +23.



**НАВІНЫ**

## Еўропа і Азія ўступілі ў саюз

**31 мая ў Мінску кіраўнікі пяці дзяржаў — Беларусі, Казахстана, Кыргызстана, Расіі і Таджыкістана — прынялі ўстаноўчыя дакументы па стварэнні Еўразійскай эканамічнай супольнасці (ЕўрАзЭС). Дагавор аб заснаванні гэтага міждзяржаўнага аб'яднання, як вядома, быў падпісаны прэзідэнтамі пяці краін 10 кастрычніка 2000 года ў Астане.**

Старшынёй Міждзяржаўнага савета Еўразійскай эканамічнай супольнасці абраны прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў.

Кіраўнікі дзяржаў Еўразійскай эканамічнай супольнасці прынялі заяву, у якой пацвярджаюць уступленне ў сілу Дагавора аб заснаванні ЕўрАзЭС. Прыярытэтнай задачай супольнасці, адзначаецца ў заяве, з'яўляецца фарміраванне паўнацэннага мытнага саюза і адзінай эканамічнай прасторы. Еўразійская эканамічная супольнасць застаецца адкрытай для ўсіх дзяржаў, якія падзяляюць яе прынцыпы і нормы.

**Наталля КУЛАГІНА.**

## Затрымана 20 актывістаў маладзёжнай апазіцыі

**31 мая, у дзень адкрыцця саміта СНД у Мінску, міліцыя затрымала як мінімум 20 актывістаў маладзёжнай апазіцыі.**

Паводле звестак грамадскай ініцыятывы "Хартыя'97", за распаўсюджванне новага спецвыпуску газеты "Наша Свабода", прысвечанага цяжкаму сацыяльна-эканамічнаму становішчу ў Беларусі, у розных месцах Мінска былі затрыманы 19 чалавек, у асноўным актывістаў незарэгістраванага руху "Зубр".

Яшчэ адзін чалавек — актывіст "Маладога фронту" Іван Тамашэвіч — быў затрыманы каля 15 гадзін за тое, што праехаў на ролікавых каньках ад Выканкама СНД да Адміністрацыі прэзідэнта з бел-чырвона-белым сцягам у руках. Схапіць хлопца супрацоўнікам міліцыі ўдалося толькі каля ўваходу на станцыю метро "Кастрычніцкая". Прыкладна праз паўтары гадзіны Івана Тамашэвіча выпусцілі, адабраўшы сцяг.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**

*Павел СЕВЯРЫНЕЦ:*

## "Мы сапраўды сталі небяспечнымі для рэжыму..."

*У чацвер, 31 мая, паведамляючы пра выбух на тэрыторыі Расійскага пасольства, Беларускае тэлебачанне занялося не сваёй справай. У праграме "Навіны" за сюжэтам аб выбуху адразу ішоў запіс інтэрв'ю лідэра Маладога Фронта Паўла Севярынца Радыё "Сабода", у якім апошні распавядаў пра планы сваёй арганізацыі адзначыць Дзень барацьбы супраць курэння. Фактычна БТ выступіла ў ролі абвінаваўцы, як бы ненарокам паказаўшы на магчымага выканаўцу тэракта.*

*Мы звярнуліся да Паўла СЕВЯРЫНЦА.*



— Я ўпэўнены, што гэта беларускія спецслужбы, рэжым Лукашэнкі, якія захацелі перад усімі тымі, хто сабраўся на саміт СНД, выставіць апазіцыю радыкаламі, а Аляксандра Рыгоравіча — выратавальнікам расійска-беларускага сяброўства. Правакацыя выгадная перш за ўсё выбарчаму штабу Лукашэнкі.

**— Павел, цябе не здзіўляе, што Беларускае тэлебачанне фактычна выступае ў ролі следчага?**

— У адносінах да Беларускага тэлебачання мяне ўжо даўно нічога не здзіўляе. Хачу дадаць, што ў той дзень мы вывесілі сцяг Еўрасаюза на стыку вуліц Варвашэні і Багдановіча, каб яго было відаць з розных канцоў Мінска, у тым ліку з месца будоўлі новага комплексу Расійскай амбасады. Вось гэта — наша зброя, а не гранаты! Усе абвінавачанні ў адрас Маладога фронту я расцэньваю як яшчэ адну гранату, толькі гранату інфармацыйную. І мне здаецца, што і тая граната, якая паляцела за плот Расійскай Амбасады, і вось гэтая інфармацыйная граната — гэта ўсё з адной кухні.

**— Які твой каментарый наконт гэтых абвінавачанняў?**

— Рэжым вельмі баіцца моладзі, баіцца Маладога фронту. Менавіта таму ў сродках масавай інфармацыі, кантралюемых Лукашэнкам, гучаць падобныя неабгрунтаваныя абвінавачанні. Іншымі словамі, гэта ўскосная ацэнка нашай працы, гэта значыць, што мы сваёй актыўнасцю, сваімі, хачу падкрэсліць, выключна мірнымі акцыямі сапраўды сталі небяспечнымі для рэжыму. Нас баяцца і таму арганізоўваюць правакацыі накшталт той, якая адбылася каля Расійскай амбасады.

**— Хто, на твой погляд, стаіць за арганізацыяй гэтай правакацыі з выбухам?**

**Гутарыў Алесь СІЛІЧ.**



**БЕЗЗАКОНИЕ**

## Сегодня они хватают и ломают белорусам кости, завтра с таким же наслаждением могут потащить нас на расстрел в "Курапаты"





Эти снимки были сделаны в день так называемого второго Всебелорусского собрания.

В генеральской форме крупным планом — доверенное лицо правителя страны, министр внутренних дел Владимир Наумов. Остальные десять — подчиненные данного милицейского генерала, загримированные под случайных прохожих. На самом деле — это "доблестные" кадры милиции общественной безопасности и ОМОНа (до 1917 года подобные полицейские образования именовались жандармерией).

Закон "О милиции" (статья 41) запрещает использование милиции и ее возможностей для достижения политических целей. Но на снимках мы видим, как министр внутренних дел использует работников милиции именно для достижения политических целей — расправы над представителями белорусского народа, оппозиционно настроенных по отношению к человеку, давшему Владимиру Наумову генеральское звание и назначившему его на министерский пост.

Судя по всему, генеральские погоны и министерское кресло были даны В.Наумову с условием безжалостной расправы над инакомыслящими. Для этого "генерал-жандарм" и кадры подбирает соответствующие. Посмотрите на лица исполнителей: они буквально горят в предвкушении наслаждения. Я не видел, как ломали кости Владимиру Юхо, но звереющее лицо громилы, с хрустом ломающего мою ногу, я хорошо запомнил.

Я не знаю его фамилии. Полагаю, это выяснится в суде, который назначен на 6-е июня 2001 года. Но в судебном деле имеются показания восьми защитников режима, которые утверждают, что лично участвовали в задержании меня при... исполнении журналистских обязанностей. Это:

Заводской РУВД

— майор Крылов А.А.;

— майор Табала (ГОМ-3);

— старший лейтенант Побединский А.Н.;

— лейтенант Филанович В.В. (ГОМ-2);

ОМОН

— прапорщик Коновалов П.Ю.(4-я группа);

— старшина ТУР С.И.(3-я группа);

— старшина Мариков В.В.(3-я группа);

— старший сержант Сахончик С.В.(4-я группа).

В тот день громилы в штатском, предводительствуемые генералом Наумовым, казалось, хватали каждого, кто попадал им под руку. Меня лично не спас даже журналистский иммунитет.

Полагаю, страна должна знать своих "героев" в лицо.

Ведь так, или почти так, были похищены Юрий Захаренко, Виктор Гончар, Анатолий Красовский, Дмитрий Завадский...

А потому ко всем, кто знает этих "героев", запечатленных на снимках, обращаемся с просьбой позвонить в "Народную волю" и рассказать, что это за люди, в каких семьях они выросли, какую школу окончили, каких убеждений придерживаются, какие другие "заслуги" числятся за ними. Мы готовы увековечить "подвиги" этих молодцев.

Уверен, пройдут годы и дети этих "героев" спросят: "Папа, тебе не стыдно за то, что ты делал?"

**Валерий ЩУКИН.**
**Фото IREX/ProMedia.**

*P.S. В связи с неразборчивостью почерка "жандармов" фамилии их могут быть слегка искажены. (Авт.).*

## Маці-Радзіма і Маці-Мова

### Слова на адкрыцці XIII з'езда беларускіх пісьменнікаў

**Ніл ГІЛЕВІЧ**



Паважаныя дэлегаты і госці з'езда!

Ёсць зусім не малая ў маштабах Еўропы краіна. Ёсць зусім не маламікі ў маштабах свету славянскі народ. Ёсць пасечаная жахлівымі трагедыямі тысячагадовая гісторыя гэтага народа. Ёсць накінуты гэтаму народу на стагоддзі, а можа, і больш, Чарнобыль. Ёсць выміранне нацыі, у якой смерць нашмат перавышае народзіны. Ёсць ушчэнт здрапежаная, змучаная, абяскроўленая зямля і дабітая да ручкі сельская гаспадарка. Ёсць разваленая, кульгавая на абедзве нагі эканоміка. Ёсць дзікае і непрабуднае ўсенароднае п'янства. Ёсць паралельны Чарнобылю фізічнаму Чарнобыль маральны і духоўны. Ёсць татальнае панаванне бесцырымоннай хлусні на афіцыйным узроўні. Ёсць зняверанасць, разгубленасць і роспач мільёнаў людзей, якія пытаюцца: як жыць і як быць? Ёсць небывала ганебны палітычны курс на ліквідацыю суверэннай дзяржавы. Ёсць па-каланізатарску бязлітасны этнацыд і лінгвацыд адвечнага племя "тутэйшых" на яго адвечнай вотчыннай зямлі. Ёсць тое ж, як і сто гадоў назад, становішча, калі ты хочаш крыкнуць "ратуйце!", а цябе прымушаюць крычаць "дзякуй!".

Але ёсць і народжаная на гэтай зямлі, можа быць, самая геніяльная формула народнай мудрасці: паміраць сабірайся, а жыта сей!

І ёсць з'ядналая ідэяй Бацькаўшчыны і сімвалам Пагоні незлічоная армія моладзі, якая ўжо ніколі не змірыцца з жыццём у няволі, і гора таму, хто гэтага не хоча зразумець.

І ёсць духоўная народная культура, ёсць фальклор, перад якім можа не зняць шапку толькі выкапнёвы дзікун і хам.

І ёсць прафесійнае мастацтва, якому з пашанай адчыняюць дзверы лепшыя ў свеце тэатральныя сцэны, музеі і карцінныя галерэі.

І ёсць прызнаная светам літаратура.

Вось у такой краіне, у такі час, у такіх умовах сабраліся мы, паважаныя калегі, на свой з'езд.

Кожны чарговы з'езд беларускіх пісьменнікаў чакаецца грамадскасцю рэспублікі як падзея ў культурным жыцці краіны. Гэта тлумачыцца тым, што Саюз пісьменнікаў заўсёды, ад самага пачатку, лічыўся галаўным, ці вядучым творчым саюзам Беларусі. Ад з'езда пісьменнікаў зацікаўленыя і зычлівыя чытачы чакаюць чагосьці большага, чым толькі падвядзення вынікаў творчай працы. У спрэчках і дакументах з'езда яны спадзяюцца пачуць тое, што пацвердзіць высокую рэпутацыю саюза майстроў слова, саюза мысляроў і праўдашукальнікаў, агменеўцаў беларускай нацыянальнай ідэі, яе носьбітаў і абаронцаў, іначай кажучы, — пачуць голас духоўнай эліты нацыі. Рэч, аднак, у тым, што на працягу доўгіх дзесяцігоддзяў партыйныя і дзяржаўныя ўлады Беларусі рабілі ўсё, што маглі, каб перашкодзіць кагорце беларускіх літаратараў узвысіцца да рангу духоўнай і культурнай эліты, стаць той галоўнай грамадскай сілай, якая б фарміравала культурнае аблічча рэспублікі. Фарміравалася яно, і вельмі інтэнсіўна, пераважна іншымі, небеларускімі сіламі, беларускія ж ішлі або на Калыму, або ў Курапаты, а тых, хто такое долі пазбягаў, — старалісяператварыць у пакорных служак рэжыму. Усё гэта дало адпаведныя вынікі: і да гэтага часу яшчэ не ўсе з нас усвядомілі, што гэта дзіка ненармальны стан рэчаў, калі духоўная культура карэннай нацыі, у тым ліку і мастацкая літаратура, знаходзіцца ў родным доме на правах падчаркі, з'яўляецца нейкім этнаграфічна-экзатычным даважкам; не ўсвядомілі, што такі стан рэчаў ёсць ганебны і яго трэба самым рашучым чынам мяняць, для чаго трэба гэтак жа рашуча пазбавіцца ад жабрацкіх звычак прасіць і кленчыць, а гэта, як вы разумееце, магчыма пры адной умове — пры наяўнасці высокаразвітага пачуцця нацыянальнай годнасці і гонару.

Перадз'ездаўская дыскусія, на жаль, па-сапраўднаму не разгарнулася. Пра што гэта гаворыць — ёсць над чым задумацца. Ці трэба, напрыклад, бачыць у гэтым моцную паразу арганізма бацыламі раўнадушнасці? І не толькі да лёсу нашага Саюза, але і да лёсу нашай культуры, а ўрэшце — і да лёсу Беларусі? Сацыяльна-грамадская апатыя — рэч вельмі небяспечная, і для пісьменніка таксама. Сярод галасоў, што ўсё ж прагучалі ў друку, вылучыўся заклік не кранацца на З'ездзе праблем грамадска-палітычных, а гаварыць пра літаратуру і толькі, пра свае творчыя справы і клопаты, паколькі Саюз пісьменнікаў — не палітычная партыя і не грамадскі рух, а суполка творцаў. Вядома, на з'ездзе літаратараў трэба гаварыць пра літаратуру. Толькі пажадана, не забываючы, а якая ж галоўная місія мастацкай літаратуры ў грамадстве. Хіба гэтая місія не ў тым, каб дапамагчы чалавеку вызваліцца ад псіхалогіі раба і стаць грамадзянінам — асобай з пачуццём уласнай годнасці? Хіба не ў тым, каб дапамагчы людзям убачыць шлях да жыцця справядлівага, разумнага, заснаванага на законах чалавечнасці? Ведаем: заўсёды былі і ёсць сілы, якія хацелі б бачыць літаратуру сэрвільнай, прыслужніцкай, забаўляльнай. І слабыя духам, здараецца, ідуць гэтым сілам насустрач. Сумна і горка бывае чытачам той краіны, дзе ў лёсавызначальны для народа час літаратура самаўхіляецца ад выканання сваёй галоўнай, прызначанай Богам, місіі. Ёсць усе падставы верыць, што чытачам краіны Беларусь сумна і горка не будзе, бо іх паэты і пісьменнікі ад наканаванай ім місіі не ўхіляцца, бо яны былі і ёсць плоць ад плоці народа, у іх сэрцах — ягоны боль, ягоныя трывога і скруха, але ж і ягоная сіла-моц, і ягоная трываласць веры. Паэты і пісьменнікі краіны Беларусь не могуць ізалявацца ад балючай памяці народа, ад трагічнай гісторыі літаратуры, спадчыннікамі якое сталі; не могуць жыць і працаваць так, як быццам на свеце не жылі і не працавалі Багушэвіч, Цётка, Купала, Колас, Багдановіч, Гарун, Гарэцкі, браты Луцкевічы, Ластоўскі, Жылка, Бабарэка, Чорны, Зарэцкі, Мрый, Калюга, Геніюш...

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

## НА ВОРЕ ШАПКА ГОРИТ, или Бомба направленного действия

**Вячеслав ОРГИШ, доктор философских наук**

Давно замечено, стремление переложить с больной головы на здоровую коренится в самой природе преступных натур. Поэтому народная мудрость советует: если кто-то начинает вопить "держи вора!", первое, что следует сделать, — хорошенько присмотреться к тому, кто вопит.

История знает много примеров, когда совершались преступления, цель которых состояла в том, чтобы направить общественное мнение по ложному следу, сделать козлом отпущения того, кто неудобен, препятствует осуществлению каких-либо преступных замыслов. Особенно это характерно для политических режимов, попирающих демократию и права человека, использующих психологию страха для нагнетания в обществе обстановки нетерпимости к инакомыслящим. Клич "Держи вора!", брошенный в разгоряченное массовое сознание, в таких случаях нередко оборачивается неправедным судом и скорой расправой с невинной жертвой злонамеренных планов тех, кто орудует методами преступников.

Классический пример — нацистская Германия. В 1933 году Гитлер и его клика, желая расправиться с неудобными политическими оппонентами, инспирировали поджег Рейхстага. А вину за содеянное переложили на коммунистов. В результате провокации нацистов за решетку был брошен болгарский коммунист Георгий Димитров, которого обвинили в террористическом акте. Состоялся знаменитый Лейпцигский процесс. За недоказанностью улик нацистские судьи под давлением международной общественности оправдали болгарского политика. Тем не менее семена ненависти к политическим противникам нацистского режима были посеяны. В Германии начались массовые репрессии против инакомыслящих.

Во вторник в Минске, в 23 часа 30 минут на территории посольства Российской Федерации по улице Коммунистической прозвучал взрыв. Неизвестный (или неизвестные) перебросили через забор ручную противопехотную гранату небольшой мощности. От взрыва никто не пострадал, разрушений нет. Задержанных тоже нет. Однако, как и положено в таких случаях, Центральный РУВД Минска по факту хулиганства завел уголовное дело. Ведутся оперативно-следственные мероприятия.

Хулиганская акция — поступок безусловно омерзительный, заслуживающий решительного осуждения. Его вдохновители и исполнители должны быть изобличены и наказаны. Сделать это — исключительная компетенция следствия и суда.

В цивилизованном обществе, живущем в строгом соответствии с правовыми нормами, такой подход является непреложным. Никто: ни глава государства, ни тем более чиновники более низкого ранга не могут его нарушить. Никому, кроме суда, не дано выносить вердикт "виновен", никто, кроме судьи, не имеет права устанавливать меру юридической ответственности. Презумпция невиновности — правовая норма, призванная защищать граждан от любых внесудебных посягательств. Пока в судебном порядке не установлена причастность к преступлению, любые обвинения в адрес лица или организации противоправны, должны преследоваться по закону.

Не так у нас. Нам цивилизованные законы не писаны. В белорусском государстве устанавливает законы и вершит суд исполнительная власть. Не успел развеяться дым от разорвавшегося снаряда, как глава государства, ничтоже сумняшеся, заявляет: брошенная граната — дело рук радикальной оппозиции, будто бы стремящейся воспрепятствовать развитию российско-белорусского союза.

Главе государства вторит МВД. Его представитель без тени сомнения дает понять белорусской общественности, что провокация осуществлена силами (само собой разумеется, оппозиционными), которые хотели бы дестабилизировать обстановку накануне саммита руководителей стран СНГ в Минске.

Для государственных СМИ, которые всегда очень внимательно смотрят в рот власти, оценка происшествия, сделанная главным государственным начальником, прозвучала, как команда "Фас!". Газеты, радио, телевидение дружно бросились травить и кусать "нечестных национал-радикалов". Особенно разусердствовалось БТ. Вечером 31 мая в программе новостей оно только и делало, что клеймило белорусскую оппозицию за "содеянный терракт". Ни тени сомнения. Была показана видеозапись выступления лидера Молодого фронта Павла Северинца, в котором он декларировал решительность своих намерений в борьбе за идеалы возглавляемого им движения. На этом основании телемальчик дал понять телеаудитории, что разыскивать виновных во взрыве негде, кроме как среди молодых (и постарше) экстремистов из числа правой оппозиции.

После в программе выступил заматерелый агитпроповец Юрий Дудинов. Тоном сталинского опричника Вышинского он принялся клеймить "молодых экстремистов от оппозиции", вспомнил опыт ирландской освободительной армии, дескать, они там тоже начинали с подобных акций...

Короче говоря, власть демонстративно переступила через презумпцию невиновности. Отбросив всякие юридические формальности, не обращая внимания на приличия, она, вкупе со своими плащеносцами, вопит: "Держи вора!". На роль злоумышленника без суда и следствия назначена оппозиция.

В этой связи общественности стоит повнимательнее присмотреться к тем, кто эти вопли производит.

Сначала надо ответить на вопрос: против кого этот взрыв направлен? Действующий глава государства и его команда в преддверии президентских выборов остро нуждаются в эффектном пиаровском ходе, который бы помог поднять их акции. "Борец за славянское единение, за союз Беларуси и России наталкивается на террористическое противодействие со стороны белорусских националистов" — чем это не лейтмотив для подобного пиаровского хода?

Тем более что, в отличие от оппозиции, главе государства и его подручным нет надобности обращаться к опыту ирландского сопротивления, поскольку имеется вполне успешный собственный опыт. Выстрелы под Лиозно в 1994 году сразу подняли рейтинг кандидата в президенты Лукашенко пунктов на 10—15. Наш народ умеет сочувствовать тем, кого хотят обидеть. Иван Титенков, отставной соратник первого "всенародноизбранного", бывший свидетелем "покушения", только накануне президентских выборов 2001 года опомнился и признался, что народ ввели в заблуждение.



*Посольство РФ в Беларуси.*
**Фото IREX/ProMedia.**

Опять же, выгода от взрыва гранаты на территории посольства РФ для власть предержащих может состоять еще в том, что его можно использовать как повод для атаки на оппозицию. Сторонникам нынешнего режима хотелось бы придушить ее активность, по крайней мере на период проведения президентских выборов.

Поэтому вполне возможно, что мы скоро станем наблюдателями еще одного "Лейпцигского" процесса. Чтобы этого не случилось, будем бдительны!

НАВІНЫ

## Памятныя манеты да 900-годдзя Еўфрасінні Полацкай

**Нацыянальны банк Беларусі 4 чэрвеня ўводзіць у абарачэнне памятныя манеты, прысвечаныя 900-годдзю з дня нараджэння Еўфрасінні Полацкай: сярэбраную — вартасцю 20 рублёў і медна-нікелевую — вартасцю 1 рубель.**

Манеты маюць форму круга дыяметрам: сярэбраная — 38,61 мм, медна-нікелевая — 32 мм; з вонкавага і адваротнага бакоў — кант па акружнасці. Бакавая паверхня манет рыфлёная.

На вонкавым баку манет размешчаны: у крузе, абрамаваным геаметрычным арнаментам, — рэльефны відарыс Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь, пад ім — год чаканкі, для сярэбранай — маса каштоўнага металу ў чыстаце і проба сплаву; па крузе надпісы: у верхняй частцы — "РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ", у ніжняй — "ДВАЦЦАЦЬ РУБЛЁЎ" — на сярэбранай і "АДЗІН РУБЕЛЬ" — на медна-нікелевай.

На адваротным баку манет размешчаны: у цэнтры — рэльефны відарыс уваходу ў келлю і крыжа Еўфрасінні Полацкай, які з'яўляецца бясцэннай святыняй беларускага народа (выканана на сярэбранай манеце золатам), злева — надпіс "ЕЎФРАСІННЯ ПОЛАЦКАЯ 900 ГОД", справа — рэльефнае адлюстраванне фігуры Еўфрасінні Полацкай.

Манеты выраблены: сярэбраная — якасцю "пруф", медна-нікелевая — якасцю "пруф-лайк". Наклад сярэбранай манеты — да 2000, медна-нікелевай — таксама да 2000.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Дзень памяці загінуўшых на вытворчасці

**28 красавіка стане прафсаюзным Днём памяці загінуўшых на вытворчасці. Такое рашэнне прыняў 31 мая прэзідыум Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай.**

Дзень памяці загінуўшых на вытворчасці адзначаецца ў многіх краінах. Прафсаюзы ўжо прапаноўвалі ўраду абвясціць такі дзень і ў Беларусі, аднак не знайшлі падтрымкі.

Паводле інфармацыі загадчыка аддзела аховы працы ФПБ Георгія Гаварушкі, у 2000 годзе на вытворчасці загінулі 258 чалавек, у тым ліку 27 жанчын і 2 падлеткі да 18 гадоў, а колькасць пацярпелых (з улікам загінуўшых) склала 8.218 чалавек (з іх 2.170 жанчын і 41 падлетак да 18 гадоў). За апошнія 10 гадоў загінулі 3.398 чалавек (у тым ліку 220 жанчын і 27 непаўналетніх), пацярпелі 145.000 чалавек (з іх 34.262 жанчыны і 793 непаўналетніх).

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Рыцары таксама сварацца

**Шэраг беларускіх рыцарскіх клубаў адмовіліся браць удзел у I нацыянальным рыцарскім турніры "Меч Гедыміна".**

Як вядома, ён павінен адбыцца 9—10 чэрвеня на замкавым востраве возера Мястра, размешчаным у наваколлях горада Мядзела Мінскай вобласці. Арганізатарамі акцыі выступілі сталічны ваенна-гістарычны клуб "Мінская унія "Меч і воран" і Мядзельскі райвыканкам. На турнір запрошаны больш за 200 рыцараў і спадарынь з 26 беларускіх клубаў, судзейская брыгада з Расіі, а таксама музыканты і рыцары з Літвы, Латвіі і Польшчы, якія возьмуць удзел у паказальных выступленнях.

Зварот "Чаму мы не едзем на турнір у Мядзел" падпісалі прадстаўнікі 12 рыцарскіх клубаў краіны з Мінска, Брэста, Ліды, Жодзіна, Полацка, Бабруйска, Баранавіч. У дакуменце зазначаецца што гэтыя ваенна-гістарычныя аб'яднанні ствараліся ў першую чаргу як культурна-асветныя, а не камерцыйныя арганізацыі, і фінансавыя пытанні заўсёды цікавілі іх толькі як сродак існавання і далейшага развіцця. На жаль, гаворыцца ў звароце, ёсць людзі, якія спрабуюць зарабіць на эксплуатацыі ідэй рыцарскага руху.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Купляйце прадпрыемствы за валюту

**Новыя пакеты акцый беларускіх прадпрыемстваў выстаўлены дзяржавай на продаж за валюту праз Беларускую валютна-фондавую біржу (БВФБ).**

У біржавай каціровачнай сістэме БЕКАС выстаўлена 21 новая заяўка на продаж акцый адкрытых акцыянерных таварыстваў, якія належаць дзяржаве і прайшлі біржавы лістынг. Гэта, у прыватнасці, пакеты акцый адкрытых акцыянерных таварыстваў "Камволь", "Мінскі фарфоравы завод", "Бабруйсктрыкатаж", "Слуцкая мэблевая фабрыка", "Мінсктэлекамбуд", "Белгасгандаль", "Беларускія шпалеры" і іншыя па цане ад 1,90 да 93,75 долара ЗША за акцыю.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Будзем лавіць шпіёнаў

**Начальнік напрамку эканамічнай бяспекі Упраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі па Магілёўскай вобласці Уладзімір Гатоўчык звярнуўся да кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў вобласці з прапановай аб супрацоўніцтве.**

Выступаючы 31 мая на пасяджэнні Магілёўскай абласной асацыяцыі прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў, ён папрасіў іх загадзя (за трое сутак) інфармаваць адпаведныя падраздзяленні КДБ аб візітах замежных грамадзян на прадпрыемствы рэгіёна. Тлумачачы гэтую прапанову, Гатоўчык не выключыў, што замежныя спецыялісты часам адхіляюцца ад зацверджанай адміністрацыямі прадпрыемстваў праграмы знаходжання на тэрыторыі вобласці і вядуць збор сацыяльна-палітычнай інфармацыі, наносячы тым самым урон дзяржаве.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

## У канцы тыдня пацяплее?

**У выхадныя дні ў Беларусі чакаецца паляпшэнне надвор'я і паступовае павышэнне тэмпературы паветра.**

Як паведамілі БелаПАН у беларускім Гідраметцэнтры, халодны паўночна-заходні вецер, які дзьмуў на працягу амаль двух тыдняў, зменіцца больш цёплым паўднёва-заходнім. У суботу, 2 чэрвеня, дзённая тэмпература павысіцца да 15—20, а ў нядзелю — да 18—23 градусаў цяпла. У суботу ў асобных раёнах пройдуць кароткачасовыя дажджы, а ў нядзелю будзе ў асноўным без ападкаў. Начныя тэмпературы складуць ад 3 да 8 градусаў. У ноч на 2 чэрвеня па поўначы магчымы замаразкі да мінус 2 градусаў.

У пачатку наступнага тыдня сіноптыкі чакаюць умерана цёплае надвор'е з невялікімі дажджамі ў асобных раёнах. Тэмпература паветра ноччу 5-10, днём 18-23 градусы.

У той жа час сусветныя пагодныя Інтэрнет-сайты прагназуюць нязначнае павышэнне тэмпературы паветра ў Беларусі. Паводле іх разлікаў, у Мінску 2 чэрвеня тэмпература не перавысіць 12 градусаў, 3-га — дасягне 16, 4-га — 19, потым апусціцца да 15—16 градусаў, 8 чэрвеня павысіцца да 19, а 9-га зноў знізіцца да 15. У асобныя дні пройдуць дажджы.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Укралі ядахімікаты

**Раніцай 30 мая ў Шклоўскі РАУС звярнуўся старшыня калгаса імя Дзяржынскага.**

Паводле яго слоў, ноччу са склада ядахімікатаў у вёсцы Межнік выкрадзена 155 літраў ядахімікатаў васьмі найменняў. Паводле папярэдняй ацэнкі, агульная сума ўрону, нанесенага гаспадарцы, ацэньваецца больш чым у 1,5 мільёна рублёў. Узбуджана крымінальная справа, вядзецца следства.

## Везлі ў Расію 3200 кілаграмаў сыру

**Супрацоўнікі Магілёўскай мытні сумесна з аддзелам эканамічных злачынстваў Мсціслаўскага РАУС прадухілілі спробу незаконнага вывазу сыру за межы рэспублікі.**

На дарозе Мсціслаў — Манастыршчына ў раёне вёскі Пустыні быў спынены аўтамабіль "КамАЗ", якім кіраваў жыхар Смаленска. Пры аглядзе кузава было знойдзена 3200 кг сыру "Расійскі" агульным коштам 9 003 520 рублёў. Вядзецца праверка.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

## Удакладненне

У №96 (1161) ад 30 мая 2001 года ў матэрыяле, прысвечаным трагедыі на Нямізе "Наших детей откровенно забывают", дапушчана прыкрая памылка. Было няправільна названа прозвішча загінуўшай Вольгі Бобрыкавай. Аўтар матэрыяла прыносіць шчырыя прабачэнні родным дзяўчыны і чытачам.

# 3. ЯД КОНТРРЭВАЛЮЦЫІ,

## або Чаму селянін не хоча развітвацца з калгасам

**Васіль ГРОДНІКАЎ**

***Для спробы, для пачатку я апытаў ледзь не ўсіх сваіх аднавяскоўцаў: ці хацелі б яны стаць фермерамі або пашырыць свае прысядзібныя ўчасткі? Адказ для мяне быў не тое што нечаканы, але ўсё ж здзівіў: ніхто, акрамя аднаго яшчэ не старога чалавека, не хацеў браць дадатковую зямлю, а тым больш ісці ў фермеры.***

### Адказ — у канцы задачніка

Ну, каторыя з тых, хто сёння спешна ўспомніў Бога і гэтак жа спешна пачаў верыць у яго, прадчуваючы хуткую з ім сустрэчу, будзе хапаць тую зямлю? Ні пай яму сёння не патрэбен, ні натуральны надзел, выгаражаны з калгаснай нівы! Яму той зямлі і трэба, што выдзяліць сельсавет: два пагонных метры — уздоўж, а дзе — упоперак. Патомных землясробаў — дбайных гаспадароў праглынуў ГУЛАГ, вайна, горад і час. Іх нашчадкі расталі ў горадзе. Некаторым сёння давай (ці абяцай) хоць залатыя горы, яны не вернуцца ў вёску. У вачах, у галаве стаіць калгас, у парамажным агні якога заўчасна згарэлі ягоныя бацькі, сваякі, родная вёска. Выпаліла і працягвае выпальваць бязлітасным напалмам "прывабная і палітычна неабходная калгасная сістэма" душы больш-менш здольных маладых мужчын і сталых мужыкоў сялянскага роду-племя. Сцвярджаюць вяскоўцы, што ў сэрцах тых, каму ўдалося ўцячы з вёскі, назаўсёды ў сэрцы да яе застанецца нянавісць, агіда, пагарда і абыякавасць, як да калгасаў і саўгасаў, так і да вёскі наогул. Як кажуць, з вачэй — далоў і з сэрца — вон!

Мне часам думаецца, што калісьці была не рэвалюцыя, накіраваная на вызваленне вёскі, а ў параўнанні са сталыпінскай рэформай і НЭПам, — контррэвалюцыя, якая жорстка задушыла сялян на доўгія часы, высушыла іх духоўнасць, скалечыла традыцыі, культуру, знішчыла сапраўдных гаспадароў. Прайшлася так, як конь па градах...

Вось такая была геніяльная палітыка камуністаў-бальшавікоў. Цэліліся ў кулакоў, а папалі па астатніх сялянах. Як у прымаўцы: вераб'і крупы склявалі, а сініцу за гэта ў клетку пасадзілі...

Па-другое, калгасны лад адбіў ахвоту ў сялян па-людску працаваць на зямлі. Не на сваёй зямлі. Селянін прывык да калгаса і да тых парадкаў, якія шмат у каго выклікаюць абурэнне. Але калі параўнаць, як ён шчыруе на сваім агародзе, у сваёй гаспадарцы і як адбывае радоўку на ферме, у брыгадзе, у майстэрнях, — стане зразумелым: адзін і пры месяцы робіць, другі і пры сонцы спіць.

Па-трэцяе. Размаўляючы з мужыкамі, незалежна дзе тое было, — на захадзе краіны ці на ўсходзе, — мяне непакоіла думка: нешта яны не дагаворваюць, няма той шчырасці і душэўнай адкрытасці, якія б навялі на разгадку. І вось у Пастаўскім раёне, вяртаючыся ад фермера Івана Фёдаравіча Гаўрыленкі, што жыве ў вёсцы Савічы, на шашы "галасаваў" селянін. Спыніліся, падвезлі. Прыехаўшы да ягонай хаты, Сцяпан (так звалі нашага новага знаёмага) нас за рукаў — і на двор. Маўляў, пакуль у мяне не паабедаеце, не адпушчу. А мы і праўда прагаладаліся. У фермера дзеля прыліку адмовіліся ад пачастунку. А той дужа і не настойваў, і мы галодныя з'ехалі ад "кулака". Мала ці доўга мы гасцявалі ў Сцяпанавай хаце, але адбылася тады ў нас з гаспадаром доўгачаканая, што называецца, душэўная гаворка.

— Вось ты пытаешся, чаму мы, вясковыя, гэтак рашуча стаім за калгасы, — трошкі выпіўшы, а таму і пасмялеўшы, даводзіў мне гаспадар. — Каб табе было ўсё зразумела ад пачатку да канца, скажу ад самага пачатку. У мяне гаспадарка — так сабе: адзін гектар зямлі. Тры сыны маю, дзвюх дачок. Усе, дзякуй Богу, у горадзе. Толькі меншая наша, Кацька, пры нас. На ферме робіць. Унукаў маю. Няшмат. Усяго аднаго... Але ты не смейся. На падыходзе яшчэ двое. А там, дасць Бог, пасыпяцца, як боб з гарохам. Гадую дзве кароўкі, пяцярых парсюкоў. Поўны двор гусей, качак, індыкоў. Вунь, глянь, за агародам — сажалка, яшчэ ад пана засталася. Вясной выпусцім птушку, і яна пасвіцца там да самага аскубу. Дык слухай сюды. На адным гектары хіба пракорміш столькі жыўнасці? Нам траім шмат не трэба. Трэба нешта ж пакласці ў сумкі дзецям, што з гораду прыязджаюць. Сам жа ведаеш, якія там заробкі. Ну, калгас і дапамагае. Як? А-а-а... Вось я працую на ферме даглядчыкам. Конь у мяне ў руках. Калгасны, праўда, але гэта няважна... Еду дамоў, пакладу пад с... паўмяшэчка камбікорму, у салому заваляцца з дзесятак буракоў, рассыпецца з вядзерца бульбы... Гною на свой гектар наважу. З фермы яго гадамі не вывозяць. Летам на кароўку наскубу. Па дровы з'езджу. Калі жонка на цялятніку працавала, то ўмела і ад яйка адліць. Цяпер Кацька не горш за яе ўмее... Кароўка свая — у запуску, я трохлітровы слоік малака з хададзільніка зачэрпну... А не будзе калгаса — дзе я ўсё гэта вазьму? Во, ледзь не забыўся. Нам жа, бывае, яшчэ і зарплату даюць. Ну, не разгонішся на тых грашах, але штаны са с... не спаўзуць. І гэта вось, — Сцяпан паказаў на асушаную шклянку, — можна ўжыць. Праз дарогу вечарочкам сваёй хроснай вядзерцы са два занясу камбікорму, то дамоў іду весела! Ну, вось цяпер і мяркуй, стаяць мне за калгас ці драць горла за фермераў? Вось ты гаварыў пра фермераў. Ёсць яны і ў нашым раёне. Ну, не! Там усё не так. Там не тое што ў мяшэчак, у кішэню не насыпеш. А каб яшчэ і гэтае, — ён зноў пастукаў відэльцам па шклянцы, — то не думай і не мыслі. З гэтым у фермераў дужа строга! Хоць, чуў, плацяць па-людску. Ды тут я больш маю! Перавядзі ты ўсё тое, што я здабуду на ферме, на грошы, дадай сюды каня і іншыя выгоды, то, бажуся, больш будзе! Вось і мяркуй цяпер сам... Вып'еш яшчэ?..

Падзякаваўшы за пачастунак, мы паехалі далей...

### Калгас разбэсціў людзей

Якраз на Радаўніцу заехаў я на маю малую радзіму, у Рагачоўскі раён. На могілках у Балотні (гэта чатыры кіламетры ад нашай забруджанай вёскі) адшукаў сваякоў. Разгаварыліся. Да нас падышоў малады чалавек. Нас пазнаёмілі: гэты была маладзейшая галінка нашага радавога дрэва. Сам ён жыве пад Бабруйскам. Асеў там пасля службы. Служыў танкістам, цяпер працуе шафёрам у адным з калгасаў на Бабруйшчыне. Едучы з маладым сваяком у бок Бабруйска, разгаварыліся.

— Я ведаю некалькіх фермераў з нашага раёна, — расказваў сваяк. — Па-добраму ім зайздрошчу. Смелыя людзі. Я б сказаў, адчайныя. І што ў іх не аднімеш — башкавітыя мужыкі. Вось мае ён, скажам, гектараў дзвесце зямлі. Кожны кавалачак у яго памечаны. На адным добра будзе расці бульба, на другім — пшаніца ўродзіць, на трэцім — жыта. Ён ведае сваю зямлю, як пяць пальцаў. Дзе ўгноіў, дзе трэба мінералкі дадаць, дзе і так вырасце. Ну, я бы не адважыўся. Хоць і скончыў сельгастэхнікум, праўда, завочна, але сёе-тое ў зямлі разумею. Але не рызыкнуў бы. Нестабільна сёння ў нас. Начальства, што ў раёне, што на месцы, да фермераў адносяцца як да кулакоў. Так і стараюцца чым-небудзь нашкодзіць. Канкурэнцыя? Ды якая там канкурэнцыя! Першым чынам — усё калгасам. Паліва, угнаенні, хімікаты, тэхніка, запчасткі, будматэрыялы. А фермеру так, што з возу ўпадзе. Не любяць іх ні начальства, ні людзі. Крывасмокамі называюць. А калі разабрацца, то якія яны крывасмокі? Вось я аднаго добра ведаю. Сам, жонка, трое дзетак, ад трэцяга класа да дзевятага, — усе працуюць. Ну, на жніво, на будаўніцтва наймае. На бульбу, калі трэба капаць. А так — самі. Часам гляджу на іх і думаю: вось каб усе ў нас так працавалі, мы б паўсвета прадуктамі завалілі. Малы і тыя, хоць з-за руля галоўкі не відаць, а машыну водзяць, за трактар садзяцца. Летась еду міма, — у раён ездзіў, гляджу — у кабіне нікога няма, а трактар зябліва ўзнімае. Прыгледзеўся, а гэта сярэдні, Славік, пыл на полі паднімае. Во, падшыванец! Увечары, калі я ўжо вяртаўся з Бабруйска, гектараў з дваццаць падняў. Праўду кажуць: калі бацька рыбак, то і дзеці ў ваду глядзяць. Не, я не ўзяўся б за фермерства. Па-першае, з чым на зямлю ісці? З рыдлёўкай, з канём, віламі? Гэта не работа. Калі і дадуць зямлю, то адзін кавалачак ля дому, другі — пад Бабруйскам, трэці — ля Рагачова ці Жлобіна. Ды яшчэ па прынцыпе: бяры, Даніла, што нам няміла. А дадуць зямлю — не дадуць крэдытаў. А калі і дадуць крэдыт, то хіба на колы ад трактара. Не, у нас пакуль няма такой палітыкі, каб стваралі нармальныя ўмовы для работы фермераў. Хутчэй рак на гары свісне... Ды што там умовы?! Хоць бы не шкодзілі, не пакасцілі. У нас жа як? Калі высунешся, цябе або за краты пасадзяць, або мясцовыя "чырвонага пеўня" пад страху пусцяць. І людзі, якія ў іх, бывае, працуюць і добра атрымліваюць, і тыя абгаворваюць. Маўляў, плаціць-то плаціць, але ж і лынды не даюць біць. У нас жа як? Калі перакур, то з драматой, калі абед, то з бутэлькай, калі працаваць, то каб спіна не ўзмакрэла. А ў фермера ўсё інакш. У яго дармавой капейкі не бывае. І зляцца каторыя. Не прывыклі нашы людзі працаваць так, як трэба. Калгас разбэсціў людзей. То пасядзець, то паляжаць, то выпіць, то ўкрасці... Шмат хто з мужыкоў хварэюць на пана. Вось аб'ядналася б дзяржаўная палітыка з фермерскай, то, глядзіш, і парадак навялі б. А так... Не, не будзе ў нас толку, пакуль не разжывемся на разумнага гаспадара. І туды не прыйшлі, і назад не вярнуліся. Усё не куецца, а плешчацца. Я так думаю: пакуль палітыка будзе намі правіць, карысці ніякай не будзе. Трэба, каб розум правіў. А з гэтым у нас у апошнія гады нішчымніца. Чым усё скончыцца, аднаму Богу вядома...

Вось вам і яшчэ адна праўда...

### Нараджаецца новая генерацыя?

У сярэднім у нас на адзін калгас — па фермеры. Калгас валодае 2—3 тысячамі гектараў зямлі, у фермераў — па 20—30 гектараў. Летась калгасы засявалі недзе каля 2,5 мільёна га, фермеры — 71 тысячу. Прыватнікі збіралі ўраджаі ў некалькі разоў большыя. Калгасы штогод і пад кожную сезонную кампанію выграбаюць з дзяржаўнай кішэні, банку, прамысловых прадпрыемстваў, арганізацый і камерцыйных структур трыльёны рублёў. Фермеры ж, нічога ад дзяржавы не атрымліваючы, яшчэ і выплачваюць у той жа бюджэт немалыя падаткі, якія, напэўна, ідуць на падтрымку "пераваг" калгаснага ладу над прыватнікам.

Здавалася б, аддай зямлю жадаючым, пакуль яны яшчэ зусім не перавяліся, дапамажы ім на першым часе, а потым не замінай — і яны выцягнуць краіну з жабрацтва. Але ж па-ранейшаму трубяць ва ўсе трубы: калгасы і саўгасы з'яўляюцца асновай дзяржаўнай улады на вёсцы. Ды якая, да д'ябла, гэта аснова?!

Былы аграрый і сённяшні "стратэг" у пытаннях сельскай гаспадаркі нядаўна заявіў: сёння ў краіне 25 працэнтаў калгасаў і саўгасаў — стратныя, г.зн. банкруты. А неўзабаве пасля гэтага заяўлення на Савеце калгасаў прагучала іншая лічба — 40 працэнтаў гаспадарак знаходзяцца ў крытычным стане. А калі зрабіць папраўку на традыцыйнае прыхарошванне дзяржаўнай статыстыкі, можна з усёй упэўненасцю сказаць: дзве трэці гаспадарак сёння — нябожчыкі.

Усюды, дзе давялося мне быць, фермеры перакананы: за імі будучае. Вось бяда толькі ў тым, што фермеры ў нас нашмат разумнейшыя, чым палітычныя "профі" — выхадцы і выхаванцы калгаснай вёскі. Гэта нашчадкі тых, хто калісьці ў складзе камбедаў, рэўкамаў, парткамаў і партячэек сілай заганяў сялян у стойла. Хацелася лепш, а выйшла горш, чым пры царызме. Не хапала розуму, адукацыі ды і звычайнай чалавечай разважлівасці. Адно свяціла ў вочы — сусветная пралетарская рэвалюцыя! Д'ябл у абдымках з бальшавізмам і дурнотай — вось сімвал мінулага, якое адгукнулася сёння. Сучаснікі — не лепшыя. Яны зацюканы тымі ж бальшавіцкімі догмамі. Тыя "ізмы" ў іх акасцянелі, пакрыліся зялёным мохам, але па-ранейшаму з жывым і смяротным джалам. Яд, што замешаны на бальшавіцкіх "ізмах", і сёння яшчэ атручвае людское асяроддзе і будзе сказвацца на нашым арганізме яшчэ доўгія гады...

Сёння і ў вёсцы свае ваююць супраць сваіх. Ідзе нейкая невядомая дагэтуль ціхая грамадзянская вайна, што без гармат і куль знішчае сваіх людзей, сваіх суплеменнікаў, нават сваіх аднадумцаў і прыхільнікаў. Пераважна слабых духам, слабых верай, "пьяных и убогих", людзей з вузкім спектрам мыслення, зашораных лжэвучэннямі, затурканых уладай, даверлівых і недальнабачных. Пры наяўнасці альтэрнатыўных праграм, пры наяўнасці адукаваных і разумных апанентаў, вучоных-аналітыкаў, прагрэсіўных рухаў, партый і аб'яднанняў улада ўпарта і тупа, як бык на раздражняльнік, ідзе напралом да сваёй ілжамэты. Ідзе, не думаючы, не аналізуючы, не спрабуючы спыніцца, аддыхацца, выцерці пот з ілба. Нешта замінае ёй сесці разам з апанентамі ды па-добраму, па-людску падумаць, прааналізаваць і, галоўнае, зазірнуць у заўтра, убачыць сёняшнія і магчымыя ў будучым вынікі бязглуздай, шалёнай і ўпартай эканамічнай палітыкі. Пэўне, замінаюць усё тыя ж "ізмы". Не хоча ўлада памірыцца з апанентамі, каб па-сапраўднаму занепакоіцца лёсам людзей, пра якіх яна быццам бы так клапоціцца...

Колькі ж яшчэ цярпець людзям такі здзек над сабой? Няўжо бываюць народы, у якіх няма мяжы цярплівасці, у якіх адваротны шлях успрымаецца як рух наперад, да прагрэсу?! Няўжо мы будзем сведкамі нараджэння новай генерацыі?..

Вось вам і яшчэ адна акалічнасць, якая, на мой погляд, павінна прымусіць нарэшце варухнуцца наша шэрае рэчыва...

*в.Мазалі Маладзечанскага раёна.*

СУДЬБА

# В гостях у семьи Юрия Захаренко

*Василий Шлындиков, Людмила Карпенко и Владимир Бородач посетили семью бывшего министра внутренних дел Юрия Николаевича Захаренко, проживающую в настоящее время в Германии. Редакция попросила В.М.ШЛЫНДИКОВА поделиться впечатлениями.*

**— Встречаясь с семьей Юрия Николаевича, Вы, видимо, говорили и о тех причинах, которые заставили эмигрировать в Германию...**

— Понятно, Ольга Борисовна, дочери Елена и Юлия на родине не чувствовали себя в безопасности. Ольге Борисовне неоднократно угрожали по телефону. Решение об отъезде из страны далось им нелегко и принято было спонтанно. Поэтому уехали без подготовки, без денег, не продав даже имущество.

**— А большое имущество у бывшего министра?**

— Трехкомнатная квартира, мебель, которой давно пора на дачу или на свалку. Когда Ольга Борисовна попросила нас отправить ей в Германию домашнюю утварь, мы стали договариваться с перевозчиком. Знаете, я не очень сентиментальный человек, но чуть не заплакал, когда увидел, что оставил после себя Юрий Николаевич — три костюма, полушубок и кожаное пальто. А наряды Ольги Борисовны и дочерей вместились в один чемодан. Все остальное везти было бессмысленно: старый холодильник, два стареньких телевизора, о мебели я уже говорил. Перевозка стоила бы дороже, чем эти вещи. Дожили, что семьи таких людей, как Ю.Н.Захаренко, так живут. Как же надо управлять государством, чтобы довести до нищеты всех.

**— Как чувствуют себя родные Юрия Николаевича в Германии?**

— Все они получили политическое убежище в этой стране. Живут в пригороде города Мюнстера — Хандорфе. Ольге Борисовне с Юлей и Елене с трехлетним сыном предоставлены две трехкомнатные квартиры, которые уже в основном обставлены. Помогли немецкие друзья, которые сделали все возможное, чтобы помочь семье. Ольга Борисовна и дочери просили передать огромное спасибо за помощь и участие послу Германии в Беларуси господину Винкельману и руководителю Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ в Беларуси господину Вику, всем, кто оказал им поддержку в самое трудное для них время. Со своей стороны считаю нужным поблагодарить немецкий народ за то, что приютил и обогрел семью нашего товарища.

Елена ходит на курсы немецкого языка, Юлия учится в школе. За все платят немецкие власти, которые также оплачивают квартиру, коммунальные услуги. Остается около 300 марок на питание. В общем, жить можно, хотя и очень скромно. Предстоит освоить немецкий язык, получить профессию, найти работу. В этом случае все наладится. Пока же близкие Ю.Н.Захаренко растеряны, до сих пор воспринимают все происходящее с ними как временное явление, ждут Юрия Николаевича. Тем более что он и в семье был лидером, и им трудно сейчас самостоятельно принимать решения, достигать поставленной цели. Мне показалось, что новым лидером могла бы стать младшая дочь Юлия. У нее, несомненно, сильный характер. Мы много говорили о том, что необходимо создавать новый дом, вить домашнее гнездо взамен разрушенного. В этом им нужна моральная поддержка.

Чтобы понять состояние жены и дочерей Захаренко, представьте на миг, что это случилось с вашей женой и дочерьми, что они волею судьбы оказались далеко от родного дома, без кормильца, мужа и отца.

**— Есть ли рядом люди, говорящие по-русски, с которыми они общаются?**

— Да, есть. Елена изучает немецкий язык вместе с немцами из Поволжья и Казахстана. В школе, где учится Юлия, аналогичная картина. Рядом тоже живут переселенцы из бывшего Советского Союза. Мы познакомились с пожилым человеком — немцем из Павлодара. Он сам подошел к нам, услышав русскую речь. Обычный сельский житель российской глубинки. Ему 66 лет. Переехал полтора года назад с семьей. Говорит, что адаптировался, в чем ему очень помогла семья. Получает 1100 марок пенсии. В Павлодаре продал квартиру за 10 тысяч рублей, это около 400 долларов, и уехал в Германию, так как не видел для своих детей никакой перспективы. И правда, какая перспектива, если за свой тяжелый труд на протяжении долгой жизни сумел нажить имущества на 400 долларов США?! Удивляется, как можно так плохо жить при российских богатствах и обилии земли. Оказывается, можно, если у власти почти сто лет мутанты, которым жалко даже продать людям кусочек земли на кладбище, не говоря уже о чем-то другом.

На наш вопрос, знает ли он немецкий язык, ответил, что знает. Но только тот немецкий, которому его научила мать, совсем не похож на современный, и он часто не понимает, что люди ему говорят. Мы пошутили, что он может гордиться собой, так как по сути он немец-абориген со старогерманским языком. На том и расстались, пожелав друг другу самого доброго.

**— С каким ощущением Вы возвращались?**

— Наше общее мнение — семья получила необходимые стартовые возможности и сейчас все зависит от них самих. От их усердия, трудолюбия, сплоченности и целеустремленности. Трехлетнему внуку Кириллу нужен отец. Он с удовольствием общался с нами, чужими дядями, и говорил, что любит нас.

**— И последнее. Каковы Ваши впечатления от Германии?**

— Я много раз был в Германии, даже учился там, так что Германия для меня не новая страна. Люди добросовестно трудятся. Достигнутое благосостояние — это плод их труда. Чувствуется благожелательность, спокойствие и уверенность в будущем. Заметен резкий контраст после пересечения границы Польши с Германией, и еще более резкий контраст после пересечения польско-белорусской границы. Сравнение не в нашу пользу. Нам надо делать выводы из собственной истории, если не хотим жить на задворках цивилизации, в нищете и дикости.

**Беседу вел Антон КОРЗУН.**

**На снимке:** *Владимир Бородач, Ольга Борисовна и ее дочери Елена и Юлия, Людмила Филипповна Карпенко и Василий Шлындиков.*

# Маці-Радзіма і Маці-Мова

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

У гісторыі краін і народаў бываюць часіны, калі кожны літаратар павінен зрабіць выбар — талент і сумленне павінны яму падказаць, што выбраць — якую дарогу, які лёс, якую славу ці няславу. І вось у такі ўрочны час выбару нам радзяць размову на з'ездзе не падключаць да высоканапружанай атмасферы грамадска-палітычнага жыцця ў краіне. Больш за тое: мудра-абачлівыя дарадчыкі намаўляюць і чытачам, і пісьменнікам, што сапраўды талентавітыя творцы сядзяць ціха, на барыкады не ўзыходзяць, публіцыстыку не пішуць, а думаюць пра вечнае і твораць вечнае. Абачлівасці ў гэтых парадах шмат, але мала праўды. Самы геніяльны балгарскі паэт Хрыста Боцеў загінуў на полі бою ў змаганні за нацыянальную свабоду Балгарыі. Самы вялікі венгерскі паэт Шандар Пецёфі загінуў на полі бою ў змаганні за нацыянальную свабоду Венгрыі. Самы вялікі ўкраінскі паэт Тарас Шаўчэнка быў сасланы за Каспій на рэкруцкую катаргу як змагар за свабоду Украіны. Самы вялікі беларускі паэт Янка Купала быў даведзены да "харакіры", а затым да загадкавай смерці ў Маскве як палымяны змагар за нацыянальную свабоду Беларусі. Не стану доўжыць пералік імён — дастаткова і гэтых.

Прагучаў перад з'ездам і невядома каму кінуты папрок: "Не гаварыце ад імя народа! Ён вас не прасіў аб гэтым!" Правільна, не трэба гаварыць ад імя; але калі табе дадзены Божы дар — сумей пачуць, чым жыве душа народа, і сказаць пра гэта так, каб чытач табе паверыў, убачыў, што ты не хлусіш, і з удзячнасцю прыняў сказанае. Не трэба гаварыць ад народа, але гаварыць **да** народа, **да** соцень і тысяч людзей, — трэба: гэта нам завяшчалі вялікія. "З цэлым народам гутарку весці, сэрца мільёнаў падслухаць біцця" — вось грамадзянскае крэда Паэта. "До спаць! Паўстаньце грамадою... Паўстаньце! Край ваш стогне родны..." — вось голас Паэта, звернуты да народа ў дні, калі менавіта такі голас і павінен быў прагучаць. "Беларусь мая! Краіна-бранaчка! Устань, свабодны шлях сабе шукай!" — вось што вырывалася з хворых грудзей самага эстэтычнага нашага паэта. І яшчэ адна вядомая вам усім паэтычная цытата:

*Прощай, немытая Россия,*
*Страна рабов, страна господ,*
*И вы, мундиры голубые,*
*И ты, послушный им народ.*

Толькі суздром заскарузлае сэрца можа не адчуць, якім страшным сыноўскім болем прадыктаваны гэтыя геніяльныя радкі вялікага паэта Расіі.

109 гадоў назад была выдадзена беларуская брашура пад назвай "Дзядзька Антон, або Гутарка аб усім чыста, што баліць, а чаму баліць — не ведаем". Думаю, што і мы сабраліся на з'езд дзеля таго, каб пагаварыць аб усім чыста, што нам баліць. Тым больш што мы ведаем, і чаму баліць. Пачнём з таго, што найбалючэйшы сёння наш боль, які родзіць у душах гнеў праведны, — гэта бачыць тое, як рыхтуецца і крок за крокам ажыццяўляецца ліквідацыя дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі. Калі з'езд пісьменнікаў не выкажа сваіх адносін да гэтай гнюснай запраданскай акцыі — будзе грош цана ўсім прамовам, якія тут прагучаць. Другое, аб чым мы павінны гэтак жа рашуча выказацца, — гэта аб рэзервацыі, у якую загнана за апошнія сем гадоў наша родная мова. Мова, на якой створана багатая і самабытная літаратура, мова, якая выявіла за 1000 гадоў нашай гісторыі дзівосныя творчыя магчымасці і, я сказаў бы, проста загадкавую жыццяздольнасць. Мы не сумняваемся, што наша мова будзе жыць, што ў яе вялікая будучыня. І не страх, што яна адамрэ, бунтуе сёння душу беларускага пісьменніка. Бунтуе душу тое, што даводзіцца кожны дзень і на кожным кроку тут, на сваёй жа зямлі, сутыкацца з дзікунствам і хамствам у адносінах да найвялікшага духоўнага скарбу народа, бачыць цынічнае глумленне з нашай галоўнай нацыянальнай святыні, якуюсьці заалагічную нянавісць да адной з самых прыгожых моў на зямлі.

Зноў і зноў мы вымушаны спытаць: а што ж дзяржава? Дзяржава мае якое дачыненне да нацыянальнай культуры ці яна па-за межамі духоўных інтарэсаў нацыі? Тысячы разоў вялікія людзі цывілізаваных краін свету падкрэслівалі: мова ёсць першаэлемент нацыянальнай культуры, ёсць аснова асноў нацыянальнай культуры і ўсёй духоўнасці народа. Без клопату аб мове народа няма і не можа быць клопату аб нацыянальнай культуры. Увесь цывілізаваны свет ведае гэту ісціну і кіруецца ёю, і толькі Беларусь — краіна і дзяржава ў цэнтры Еўропы — да гэтай ісціны не дарасла.

Паважаныя калегі! Нацыянальная літаратура — гэта галоўная цвярдыня нацыянальнага духу, нацыянальнай ідэі, нацыянальнай самасвядомасці. Толькі такім павінна быць наша разуменне місіі, ролі і месца беларускай літаратуры ў грамадстве, у жыцці народа. Толькі на грунце такога разумення, г.зн. на грунце беларускай нацыянальнай ідэі, магчыма гуртаванне і кансалідацыя нашых творчых сіл. Гэта — галоўнае. А ўсё тое, што насуперак гэтаму, — яно не ад Бога, а ад сатаны, ад д'ябла. І будзе вельмі кепска, калі ў творчым і грамадскім жыцці нашага Саюза будзе браць верх не галоўнае, не тое, што ад Бога.

Маці-Беларусь і Маці-Мова — іншага, больш дарагога, чым гэта, больш святога, чым гэта, у нас няма. Паслужым жа, колькі хопіць сіл, Роднаму Краю і Роднаму Слову. Слову з вялікай літары. Слову святлістаму і неспадманнаму. Кажучы радкамі Купалы, Слову магутнаму і бяссмертнаму.

Па даручэнні Рады Саюза абвяшчаю XIII з'езд беларускіх пісьменнікаў адкрытым.

*29 мая 2001 года.*

